

DC COMICS™

# BATMAN™

43

BRUCE WAYNE



DETECTIVE AGENCY

VARIANT Bombshells COVER

OCT 2015

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Бэтмэн
№43 (2011)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей

RATED T TEEN

DCCOMICS.COM

SNYDER • CAPULLO • MIKI • PLASCENCIA








Вось ты дзе.


Дзякуй, што прыйшоў.
У мяне ёсць тое, што табе трэба.


...Я стварыў гэта.
Гэта было няпроста.


Падыйдзі бліжэй, і я пакажу табе.
Бліжэй.
Гэта спецыяльна для цябе.


«Гэта ненатуральна...»



...Я ўсё разумею. Я ведаю, як гэта выглядае. Я, Джым Гордан, прыйшоў да вас, Бруса Уэйна, і кажу такое. І ўсё ж гэта так.
Я **Бэтмэн**. І мне патрэбна ваша дапамога.




Бэтмэн. Я бачыў вас у навінах. Змагаецеся са злачыннасцю ў гэтым новым касцюме. Уражвае і выклікае захапленне, містар Гордан.
Але баюся, што я больш нічога не ведаю пра Бэтмэна.




Ну добра, проста... Будзьце так ласкавы. Я хачу вам нешта **паказаць**.
SAVE FOR J.G.




Гэта рэч, гэта «зерне». Хтосьці выррабляе такія і збывае дрэнным хлопцам у Нэроўз.
У гэтым раёне. Прама тут, дзе вы працуеце кожны дзень, Брус. Я дакладна ня ведаю, хто такі гэты **містар Блум**, але гэта вельмі моцная зброя. Яны надаюць сваім уладальнікам **жудасныя здольнасці**. І кожнае зерне, відаць, мацней папярэдняга. У хуткім часе яны могуць...
Мне проста... спатрэбілася б ваша дапамога.


Вось, гэта было дызактывіравана.


Я ўсё яшчэ не разумею, навошта вы **мне** ўсё гэта расказваце.
Таму што...


...Таму што вы - гэта **ключ** да Бэтмэна, Брус.
Прынамсі для **мяне**.


Ведаеце, менавіта **вы** распрацавалі большую частку прыстасаванняў у касцюме, які я нашу. Калі Паўэрс праглынулі Уэйн Індастрыз, яны прысвоілі іх, але гэта ўсё яшчэ **вашы** тэхналогіі.
І я спадзяваўся, што вы зможаце мне дапамагчы... Перапраграміраваць што-небудзь так, каб я змог працаваць як Бэтмэн, але **таемна**.


Усё, што я раблю, усё, што я бачу, запісваецца Паўэрс і апрацоўваецца паліцыяй. Я проста пасрэднік. **Вартавы**. Але Бэтмэн... павінен быць нечым **больш значным**.
Паслухайце, да Готэма набліжаецца нешта буйное. Гэты містар Блум, у мяне прадчуванне на яго конт. Гэта звязана з чымсьці, што адбывалася шмат гадоў назад. Вы дапаможаце мне?


Пацешна, містар Гордан. Гэты цэнтр адпачынку? Яго заснаваў Люцыюс Фокс, сябар майго бацькі. Ён пабудаваў яго для ўсяго Нэроўз. Кут. Маленькая Куба... Бяспечнае месца, куды дзеці могуць прыйсці, пагуляць. І **паразмаўляць**.
З самага адкрыцця Люцыюс пачаў такую палітыку. У свой першы дзень тут табе трэба зрабіць **цэглу**. Ты рэжаш гліну, фарбуеш яе, кладзеш у печ. Абпальваеш яе. Потым адносіш цэглу на задні двор. Там ёсць **сцяна**. Некаторай цэгле ў ёй ужо не адзін дзясятак гадоў.
А цяпер, калі ўвесь раён быў скалечаны падчас нападзення Джокера, многія дзеці страцілі месца жыхарства, сяброў, членаў **сям'і**...
Але іх цэгла знаходзіцца тут, калі б яны ні прыйшлі. Заўсёды на заднім двары, у сцяне.


Брус...
Не, паслухайце мяне. Кім бы я раней ні быў... Я ўжо не той чалавек. Я **не магу** ім быць. І я клапачуся аб гэтых дзецях у цэнтры. Я клапачуся аб гэтым месцы. Я спрабую пабудаваць сваё жыццё. На самы простым фундаменце. Гэта вам зразумела?
Брус, я зусім не хацеў...
Брус?


У вас тут усё добра?
Усё ў парадку, міс Мэдзісан.


Камісар Гордан? Калі ласка, застаньцеся на абед. І клічце мяне **Джулі**. Я амаль пазнала вас без вусоў. І... натрэніраваным.
Гэта імпланты. Зараз усюды імпланты. І дзякуй за запрашэнне, але мне час ісці.


Можаце пакінуць гэта сабе. Прыемна было пабачыцца, Брус.


Ты ў парадку, мілы? Чаго ён хацеў?
Нічога... Ён проста... звярнуўся **не па адрасе**.
«Гэта не **Брус Уэйн**».


LUCIUS FOX CENTER for GOTHAM YOUTH
Я бачыў яго там.


І гэта проста...
LUCIUS FOX CENTER for GOTHAM YOUTH


...не ён.
Насупраць, **містар Кент**...


...Гэты чалавек самы **сапраўдны** Брус Уэйн з усіх, хто хадзіў па зямлі.


Калі ў справа гэтым, Альфрэд, тады скажыце мне, калі ласка...
...што здарылася з **былым** Брусам?

«Кажуць, бацька адчувае, калі яго дзіцё пакідае гэты свет».
«Я ніколі ў гэта не верыў. Да гэтага часу...»
«Але, калі сцены пячоры абрушыліся на яго і Джоке-ра, я... я **адчуў** гэта».
«Астатнія ўсё яшчэ спадзяваліся, калі разбіралі завалы, але я ўжо ведаў».
«Мне патэлефанавалі праз тры тыдня, як ён знік. Я чакаў яго каля **пячы**, гатовы спаліць у ёй усе запісы пра місію Бэтмэна».
«Яго знайшла **Джулія**. Яго цела не было пашкоджана. Яно было гатова вярнуцца дадому».
«І я паехаў на месца, каб забраць яго».
«Чалавек, аб якім я клапаціўся, калі ён быў немаўлём, потым хлопчыкам, а потым **узлаваным** юнаком...»
«І я б паклапаціўся аб ім у апошні раз перад тым, як адправіць у апошні шлях».
«Але калі я прыехаў...»
«Я ўбачыў...
«Што ён вярнуўся **жывым**. Джулія не разумела гэтага. Яна ўжо запакоўвала яго ў мяшок і збіралася зашпіліць апошні гузік, як раптам... Ён проста **расплюшчыў вочы**».
«Мой Брус».

Але гэта **не** Брус. Я гляджу на яго розум прама зараз, і гэта не розум **Бруса Уэйна**. У **некаторым** сэнсе, гэта ён... Але ва ўсім астатнім...

...Ва ўсім астатнім - не. Дык што з ім здарылася?

Ён загінуў - вось што здарылася. Пасля сутычкі з Джокерам ён быў мёртвы некалькі гадзін. Яго сэрца не білася. Яго мозг выключыўся.

Але потым ён... **Ачуяў**.

**Дыянісій**. Канешне. Сувязі ў яго мозге зусім іншыя. Пэўна, ён пранік у яго разбіты чэрап, вылячыў мёртвыя тканіны, але зрабіў гэта, ён...

Ён вярнуў яго **абноўленым**. Ён быў Брусам Уэйнам, але без успамінаў. Без... навіслым над ім **ценям**.

Але ты ж **расказаў** яму, Альфрэд. Ты расказаў яму пра яго жыццё.

Расказаў. І гэта адна з горшых рэчаў, што мне калі-небудзь даводзілася рабіць.

«Зноў правесці гэтага чалавека праз **трагедыю** яго ўласнага жыцця. Узяць яго, неаформленнага, чалавека, якога я люблю, і **зляпіць** нешта дэфарміраваннае. Спрабуючы паказаць шлях да **Бэтмэна**».

«Я сказаў, што з ім адбыўся няшчасны выпадак пад час нападзення Джокера, а потым пачаў з самага пачатку. Я расказваў яму пра яго дзяцінства, пра **смерць бацькоў**. Расказаў пра тое, як ён узлаваўся пасля іх смерці, стаў апантаным... І як выкарыстаў гэта для авалодання сілай, дзякуючы якой стаў **дапамагаць** гораду».

«Як ён зрабіў з Уэйн Энтэрпрайзіс нешта асаблівае і **гераічнае**».

«Аб тым, як ён стаў **сымбалам**. У той жа час набліжаючыся да апошняй праўды. Жудаснаму маналогу на жудаснай сцэне».


«І я збіраўся расказаць яму апошнюю праўду, адчыніць апошнія, жахлівейшыя дзверы, калі...»
Хопіць.


Я пачуў дастаткова, Альфрэд.


Але гэта не ўсё, Брус.
Упэўнены, што не ўсё.


Ня ведаю, што гэты няшчасны выпадак са мной зрабіў, але я... Не той чалавек, якога ты апісваеш. Я ведаю, што ты кажаш праўду. Я ведаю, што любіў цябе. Я гляджу на гэтыя фатаздымкі і разумею, што любіў **іх**. Але я не адчуваю страты.
Мне вельмі шкада таго хлопчыка ў правулку, але я не магу ім быць. Гэта не я.


...
Што ж, у такім выпадку... Хто ж вы такі, майстар Брус?


«Я ня бачыў яго два дні».
«А на трэці ён з'явіўся і сказаў нешта, ад чаго ў мяне стала лёгка на сэрцы».
Мабыць, я і не той чалавек, якім быў, але я хачу дапамагці. Але пры гэтым па-свойму. Асабіста. Мая маці працавала ў школах. Мой бацька працаваў у гарадскіх бальніцах. І гэта правільна. Гэта мне падыходзіць.


«А гэты горад, містар Кент, ён ніколі нічога не аддае ў адказ. **Ніколі**».
«Але магу даць клятву, не прайшло і хвіліны пасля таго, як Брус сказаў мне гэта, і ў дзверы пазвалілі».
«Гэта была **міс Джулі Мэдзісан**, прыйшла наведаць Бруса. Яны чула, што з ім адбыўся няшчасны выпадак пад час атакі. Яны сустракаліся ў маладосці. Працуе з дзецьмі ў Нэроўз...»
«Гэты горад... Ён ніколі нічога не аддае. Але на гэты раз аддаў».


Ты павінен расказаць яму, Альфрэд. Не толькі пра тое, што ён Брус Уэйн, але і пра тое, што ён **Бэтмэн**.
Прабач, але калі ты гэтага не зробіш, тады прыйдзецца **мне**.


Ці гэта так?


Альфрэд... Што ты?!..
Давайце, ляціце да яго. Раскажыце яму ўсё. Але спачатку даведайцеся.


Брус Уэйн страціў баявыя навыкі. Навыкі **дэтэктыва**. Усе пятцаццаць гадоў **трэніровак** і яго досведа ў якасці Бэтмэна цяпер у мінулым.
І іх не аднавіць, бо гэтых успамінаў там і **не было**. Гэта зусім новы мозг.
Прасіць яго быць Бэтмэнам - гэта тое ж самае, што прасіць вас **узляцець** пад уплывам гэта кольца. Ён **бездапаможны**, и апрануць плашч для яго раўнаважна смерці.


Вы лічыце, што ён зможа навучыцца ўсяму зноў. Мабыць, і так, праз шмат гадоў. Але памятайце адно...
...Бэтмэн народжаны з крыка маленькага хлопчыка ў правулку. З яго першабытнага болю і нянавісці. З шраму. Але гэты **шрам** знік, містар Кент. вылечыўся.
Альфрэд, ты можаш паказваць мне здымкі яго мозга, але ён **Бэтмэн**. У яго заўсёды ёсць план. Запасны выхад.


Хадземце са мной, містар Кент. Я прывёў вас сюды не для таго, каб паказваць здымкі мозга Бруса.


Я паклікаў вас, каб паказаць вось **гэта**.
Што гэта?
Штосьці, што ён схаваў. Ад усіх нас. **Апошняе выкрыццё** Бэтмэна.


...
Гэта ж?..
Гэта машына, створаная для таго, каб у свеце заўсёды быў **Бэтмэн**. Машына, над якой ён у тайне працаваў, калі загінуў.
Яна б выкарыстоўвала яго ДНК, каб кожны раз вырошчваць Бруса да дваццаці семі гадоў, уціскваючы ў яго ўвесь боль сапраўднага **Бруса**, усе яго навыкі, усе ўспаміны - аж да таго моманту, калі ён прыняў рашэнне стаць **Бэтмэнам**.






Толькі ўявіце сабе...
...уявіце бясконцы ланцуг трагедый. Версія за версіяй, якія заканчва-юцца адным і тым жа **кашмарам**.
Брус, забіты Бэтмэнам, каб Бэтмэн мог нарадзіцца зноў. Цэлы **ненатуральны** род такіх.
«Так, бацька, я стану кажаном», - сказанае Брусам Бэтмэну, якога ўзрасціў Бэтмэн. Адзін замяняе другога, пакаленне за пакаленнем.
Але нават ён, з усім сваім геніем, і блізка не падыйшоў да завяршэння гэтага праекта.








Бо ён **не павінен быў** жыць вечна.
Колу лёсавана было разарвацца, і гэта адбылася.
Вы не разумееце, Кларк? **Бэтмэн памёр. І Брус Уэйн вярнуўся**.
Альфрэд...


Тога чалавека, што вы сёння бачылі, ніхто з нас так і не ўратаваў. Таго, кім **быў бы** Брус. Таго, кім яму **лёсавана** было быць. Горад вярнуў яго. Гэта яго ўзнагарода. Гэта яго **час пасля смерці**. Гэта сапраўдны Брус Уэйн.
Вы бачылі яго розум. Ён ужо не зможа стаць Бэтмэнам. Пакіньце яго. Карысць, якую ён ужо прынёс у Цэнтры Фокса... Вы бы паглядзелі на яго. Ён **шчаслівы**.


Пакіньце яго, містар Кент. Адпраўце астатняе ў **печы**. Прашу вас...

«...Няхай хто-небудзь іншы пакутуе за гэты пракляты горад».

Прывітанне.

Я правяраю паказчыкі. Ты зарадзіўся. Запуск праз тры, два, адзін...

POOM

Зарад прымушае малекулы прыліпаць да тваіх пальцаў...

...памяншаючы шкло. І няма патрэбы рэзаць ці разбіваць яго.

З вялікай ліпкасцю прыходзіць вялікая адказнасць...

Што ж, не прывыкай да гэтага. Гэты разрад - гэта ўсё, што я магу зрабіць, каб **Паўэрз** не даведаліся пра **адсутнасць** касцюма.

Ты павінен выкарыстаць яго проста як касцюм, не больш гэтага.

Я зладжу. Усё роўна я так і не разабраўся з паловай функцый у ім.

Вусцілкі з падагрэвам?

Ты жартуеш.

Ды ну? Мабыць, нам усё ж такі варта было б схадзіць сёння на вялікую **прэзентацыю**. Зараз табе трэба быць там, сапраўды? Джэры, напэўна, цябе шукае.

Ну і няхай. Нам трэба даведацца пра **містара Блума**.

А гэта месца... Калі Кі Цу меў з ім справы, тут павінны быць запісы пра Блума. Як лідару **пякельных свіней** яму прыходзіцца ўсё фіксіраваць і адпраўляць буйным босам за мяжу.


Вось дык здаравенная ікра.
Я прыхаплю табе трохі. Пякельныя свінні атрымалі сваю славутасць, працуючы вось з такімі **інкубатарамі**. Яны правозяць кантрабанду ў **замарожанай** рыбе.
Свінні кіруюць у Готэме ўжо амаль сто гадоў. Яны, шаптальная банда. Чацвёркі з зялёнай лініі, былыя чатыры-пяць... Іх карані ўходзяць у далёкае мінулае. Яны частка вуліц Готэма, яго гісторыі.


У якасці камісара я іх трохі панерваваў. Больш **прапагандай**, чым арыштамі, але ўсё ж.
Пасля ўсяго, што адбылася са мной за апошні год: **арышт**, потым разбурэнні, выкліканыя «Канцом гульні» Джокера... Такое адчуванне, быццам зноў вярнуліся былыя часы.


І ўсё ж такі гэтыя банды. Яны хутчэй перагрызуцца, чым...


WHUMP


Божа мой.
Толькі не кажы, што ў гэтай акулы рожкі.
Хто-небудзь паклічце асацыяцыю абароны жывёлін.


Але як я і казаў... Гэтыя банды ненавідзяць адна адну.
І ненавідзелі дзясяцігоддзямі. Як, чорт бяры, гэты містар Блум прымусіў іх усіх прыйсці да яго? І **дзе** ён?
TAKTAK TAK


...
Аа.


Дык **хто** ж ты?..
Сябар.


Ён наш сябар. Майструе нам ўсялякае. Яшчэ пабачыш.


О, я таксама штосьці для цябе падрыхтаваў, **Кі**. Падыйдзі, і я табе гэта аддам.


Бэтмэн, яны выкарыстоўваюць нейкі **блакіроўшчык**... Не магу перавесці цябе ў стэлс-рэжым. Быццам ім вядома... чашчыня. Быццам яны нас чакалі.


Ха. Больш ніякіх трукаў. Ніякага касцюма. Толькі ты...


CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK
CHIK CHIK


...і мы.
Скажы-ка мне, «Бэтмэн», ты калі-небудзь глядзеў **Рабакопа**?
Там сем свінней. У цябе недастаткова бэтарангаў, каб...
Не хвалюйся...


...У мяне ёсць вось гэта.










Ты ў парадку? Дадзеныя па гэтым пакоі...

-Унгх- Усё добра. Гэта прамысловыя **печы**. Для знішчэння доказаў. Сталёвыя сцены са свінцовай праслойкай. Адсюль не выбрацца.

Божа мой, тэмпература...

Сотня градусаў і -Унгх-... Падымаецца. **Хутка**. Выхада няма.

Я іду туды, я дапамагу...

-УНГХ!-

Бэтмэн, касцюм гэтага не вытрымае! Ты сасмажышся жыўцом!

-Фух фух- Джулія! Джулія! Адкажы!

«Адкажы...»


...Зямля выклікае Бруса!
Аах!


З табой усё добра?
Прабач. Я тут прагледжваў файл **Дзюка Томаса**. Ён усё яшчэ... -Уааа- Ён усё яшчэ **крыўдзіцца** на мяне.
Ну, у вас з ім свая гісторыя. Я ведаю, гэта не той ты, які **ты**, але ўсё ж. Упэўнена, яму ад гэтага не па сабе. Як і табе.


Дзіўна. Такое пачуццё, быццам я не спаў ужо пару гадоў. Я прачынаюся, і ўсё здаецца такім...
Новым?
Усё добра. Добра, пойдзем дадому.
LUCIUS FOX C








«Гэта не для вас...»


Вось **гэта**. Яно ваша.

Калі ўшыць яго, тады яно ажыве.
Дык што вы думаеце?

Я думаю...

Мне ніколі не былі патрэбны звышздольнасці, каб трымаць уладу ў Готэме, **«Містар Блум»**, і наўрад ці яны патрэбны мне зараз. Але... Відаць, людзі набываюць ваш тавар. Таму я зацікаўлены.

Мне вельмі шкада, **містар Коблпот**. Баюся, мы не зразумелі адзін аднаго. Гэта зерне магло **б спрацаваць** на вас, на вашым целе, але я не магу вам яго аддаць.

Ха. Ды ну? І чаму ж? Няўжо ў цябе іх недастаткова?

Наадварот.
Нават з лішкам. Проста... Вы не частка гэтага.

А.

Што ж, гэта ўсё, канешне, вельмі міла, містар Блум. Я пра вас вельмі шмат чаго чуў. Чалавек, які раздае сілы. Гандляр зброяй, які не складае ўгоды. Які вырашчвае штосьці. **Сад**. Бізнэс.


Справа ў тым, што...


BLAM


...**Парасткі** накшталт цябе мы проста вырываем з карэннем, пакуль вы не адужэлі.


«І спальваем усё, што ад вас застаецца, каб вы ўжо ніколі не вярнуліся».




Добра, хлопцы. Давайце...


АГХ!
УНХ!


Якога...




Але... Але...
Што цікавага ў парастках, містар Коблпот... Дык гэта тое, што нас не так ужо і проста **забіць**...

ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ
ЗА ПАДТРЫМКУ
COMICSBY.BY:



Сяргей
Лісічонак

# SUPERHEAVY

## PART THREE


SCOTT SNYDER WRITER
GREG CAPULLO PENCILS
DANNY MIKI INKS
FCO PLASCENCIA COLORS
STEVE WANDS LETTERS
CAPULLO, MIKI, PLASCENCIA COVER
DAN HIPP BOMBSHELLS VARIANT COVER
REBECCA TAYLOR ASSOCIATE EDITOR
MARK DOYLE EDITOR
BATMAN CREATED BY BOB KANE
SUPERMAN CREATED BY
JERRY SIEGEL AND JOE SHUSTER,
BY SPECIAL ARRANGEMENT WITH
THE JERRY SIEGEL FAMILY


...І расцем
мы вельмі,
вельмі хутка!

NEXT MONTH:
WHO IS MR. BLOOM?

ДАЛЕЙ: ХТО ТАКІ МІСТАР БЛУМ?